Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 22. Вільня, Серада, 1-га красавіка 1925 г. Год I.

## Задачы дня.

У палітыцы, дый у грамадзкім жыцьці наагул заўсёды аб усім вырашае *сіла*.

Ня толькі грубая фізычная сіла, сіла кулака, але і сіла інтэлекту, сіла сьвядомасьці і арганізацыі грамадзянства.

Старая гэта праўда, як сьвет. Толькі ў розныя мамэнты рашаючым зьяўляецца розны від сілы.

Мы перажываем цяпер такі мамэнт, калі сілай народу беларускага зьяўляецца іменна яго сьвядомасьць і арганізованасьць.

Справа ў тым, што Польская дзяржава, да якое належыць вялікая часьціна нашага народу, як у сваей вонкавай, так і ў унутранай палітыцы апынулася на раздарожжы.

Звонку ўваскросшая палітычна ў сям'і народаў Эўропы Нямеччына пагражае заходнім граніцам Польшчы, пагражае тэй жыцьцёвай артэрыі польскага дзяржаўнага арганізму, якая злучае Польшчу з жыцьцядайным морам.

Унутры Польшчы йдзе вострая партыйная барацьба працоўнага сялянства і работнікаў з пануючай тутака буржуазіяй, і нават эндэцкая „Gaz. Warsz." стараецца расчыніць на гэты факт вочы ўсяго польскага грамадзянства. Рэзалюцыя сялянства, з'арганізаванага ў партыю „Вызваленьне", аб канфіскацыі дворных зямель бяз выкупу, забастоўка батракоў у Пазнаншчыне і Паморы і пагроза пашырэньня яе ажно на Заходнюю Беларусь (Беласточчыну), няўстанныя вострыя канфлікты між работнікамі і фабрыкантамі ў прамысловых раёнах Польшчы, — усё гэта выяўленьні цяжкога гаспадарчага крызісу, пэражыванага Польскім гаспадарствам. Аднача сна бачым імкненьне польскае буржуазіі стварыць адзіны *„нацыянальны"* фронт у Сойме і ў краю (гл. карэспандэнцыю з Варшавы) дзеля барацьбы з усімі, хто йдзе пад *сацыяльным* штандарам. І ўрэшце распачынаецца новы рух, рух, бязумоўна, рэакцыйны ў сваей істоце: манархічны рух, які імкнецца „абдарыць" Польшчу *каралём*...

Цэлы рад грамадзкіх сіл прыймае ўчасьце ў гэтым унутраным змаганьні ў лоне польскага грамадзянства. Але, хоць актыўную роль іграюць тутака *палякі*, змаганьне гэтае адбіваецца ў першы чарод і найбольш балюча на „інародцах".

Вось-жа ўзьнімаецца пытаньне: што-ж павінны рабіць гэныя „грамадзяне другога сорту"—„нацыянальныя меншасьці"? Ці павінны яны здаволіцца пасыўнай роляй, ці прыняць больш дзеяльнае ўчасьце ў працэсе тварэньня „сацыяльнае раўнавагі" ў Польшчы?

Пытаньне гэтае — прынамся ў адным з галоўных пунктаў яго—лішне яснае: ня можа быць сумліву ў тым, што ў барацьбе *за зямлю* беларускі сялянін пойдзе поплеч з польскім, поскольку апошні ня будзе пасягаць *на беларускую зямлю*.

Але, каб беларусы маглі аказаць нейкі ўплыў на кшталтаваньне сацыяльна-палітычных адносінаў у Польшчы, каб з боку польскага селяніна не магло быць такога пасяганьня на нашае нацыянальнае дабро, — мы павінны — як сказана раней—*быць сільнымі*.

Толькі тады тая ці другая нашая тактыка, падмацаваная сілай, здолее даць пажаданыя, дый наагул відочныя вынікі.

Сілу гэтую мы ўжо двойчы выявілі на *палітычным* грунце: байкотам выбараў у такзваны „Віленскі Сойм" і чынным учасьцем у выбарах у Сойм Варшаўскі. У першым выпадку мы ня пусьцілі ў „Віленскі Сойм" ніводнага беларуса; у другім—правялі ў Сойм Польскае Рэспублікі ўтрая больш дэпутатаў, чым... спадзяваліся палякі!—Цяпер трэці раз выяўляецца сьвядомая сіла беларускага народу пад Польшчай на грунце *культурнае барацьбы—за родную школу*—у тых дзесятках тысяч дэкларацыяў, якія па ўсіх кутох Заходняе Беларусі падаюцца школьным уладам, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку паліцэйскіх і гмінных уладаў.

*Сіла сьвядомасьці* ў нас ёсьць *бясспрэчна*. Сіла *арганізованасьці* вымагае йшчэ шмат працы. І ў гэтым кірунку павінна вясьціся самая шырокая і энэргічная дзеяльнасьць. Бо, калі нашая інтэлігенцыя ў местах яшчэ сяк-так здалела зьарганізавацца ў цэлы рад культурна-нацыянальных і грамадзкіх арганізацыяў,—дык наша вёска страшэнна церпіць іменна ад нястачы арганізацыі.

Вось-жа арганізацыя масаў, арганізацыя нашага працоўнага сялянства на грунце іх выразных клясавых інтарэсаў павінна быць галоўнай справай сяньняшняга дня. І тады голас беларускага народу ў тэй барацьбе, якую вядуць за сваю лепшую долю ўсе працоўныя Польшчы, не астанецца бяз водгуку.

## Забойства палітычных вязьняў.

Польскі ўрад згадзіўся зрабіць з урадам СССР замену двух палітычных вязьняў — б. польскіх афіцэраў Вечоркевіча і Багіньскага, засуджаных за ўзрыў варшаўскае цытадэлі на сьмерць і памілаваных прэзыдэнтам Войцехоўскім,—на палякоў, вязьняў СССР.

Польская правая прэса падняла страшэнны крык з гэтае прычыны і рашуча заявіла, што да выдачы Багіньскага і Вечоркевіча „нацыянальна думаючае" польскае грамадзянства не дапусьціць.

І вось у нядзелю, каля 3 гадзіны папаўдні, калі цягнік з вязьнямі падыходзіў да радавае граніцы (каля Стоўпцаў), адзін з пільнаваўшых вязьняў паліцыянтаў, нейкі Мурашка, дастаў рэвольвэр і **застрэліў абодвух—Багіньскага і Вечоркевіча**, пасьля чаго заявіў, што зрабіў „патрыятычны ўчынак".

Вечоркевіч, цяжка ранены, памер у панядзелак—пасьля няўдаўшаеся апэрацыі. Багіньскі быў забіты на месцы.

Польская прэса паведамляе, што Мурашцы даразны суд не пагражае, і яго будзе судзіць звычайны суд.

Забойства паліцыянтам палітычных вязьняў адаб'ецца бясспрэчна гулкім эхам па ўсім культурным сьвеце.

---

Дужа характэрна ў польскіх законах розьніца ў адносінах да „нацыянальных меншасьцяў" на Заходніх і Усходніх „Крэсах".

У ўставе аб мове ўрадаваньня ў судовых установах у акругох апэляцыйных судоў у Пазнані і Торуні сказана, што дапушчаныя законам „паданьні ў нямецкай мове лічацца паходзячымі ад **польскага грамадзяніна, матчыным языком якога зьяўляецца нямецкі язык**, паскольку **непраўдзівасьць** гэтых акалічнасьцей ня выявіцца з судовых актаў ці ў судовага ўрадоўца" (арт. 4, абзац 2).

І гэта зусім справядліва.

Але для нешчасьлівых „Усходніх Крэсаў" польскае законадаўства ўвяло зусім новы, нідзе па ўсім сьвеце не практыкаваны прынцып: калі селянін, або інтэлігент беларускі, грунтуючыся на тугуттаўскіх „языковых" законах, захоча ў урадовую ўстанову падаць нейкую паперу пабеларуску (на што па закону мае права), ды кожны ўрадовец можа гэтую паперу ня прыняць і зажадаць **доказу**, што ты і „абыватэль" і беларус.

Як бачым, і „меншасьці" ў Польшчы дзеляцца польскім законадаўствам на розныя катэгорыі: тое, што **для немцаў само сабой разумеецца** (бо ў іх ёсьць каму заступіцца заграніцай!), **беларус павінен яшчэ даказаць!**..

Так выглядае на дзеле канстытуцыйная роўнасьць усіх перад законам...

## „Бура" у „Вызваленьні".

У клюбе „партыі, чыстай, як сьляза"... (асадніка?), паводле слоў старшыні п. Рудзіньскага,—пасьля гучных і рэзкіх „рэформаў" зьезду ідзе патроху „ўспакаеньне".

Зараз-жа пасьля зьезду, прыняўшага рад радыкальных рэзалюцыяў і даручыўшага правясьці іх у жыцьцё парляманцаму органу партыі—Соймаваму Клюбу, гэты апошні выдаў адозву, у якой заявіў, што адны пастановы зьезду — супярэчны з Канстытуцыяй, другія — безнадзейны дзеля правядзеньня з прычыны сучаснага ўкладу сілаў у Сойме і наагул невыканальныя ці прынамся—неактуальныя.

Як ведама, найбольш радыкальная пастанова зьезду: аб прымусовым адабраньні ў паноў зямлі **бяз выкупу**, — абурыла абшарніцкую інтэлігенцыю „радыкальнай сялянскай партыі", і да ўраду Клюба пасыпаліся заявы паслоў і сяброў прызыдыуму аб выхадзе. Але бура прайшла—разам са зьездам, і, пасьля заявы клюбу аб невыпаўнімасьці пастановаў зьезду сялян, лідэры гэтай абшарніцка інтэлігенцкай групы — Касьцялкоўскі, Хоміньскі, Сьмяроўскі, Бартэль і інш. ўзялі назад свае заявы. Наадварот, найбольш радыкальны пасол вызваленец, доктар Фідэркевіч, выйшааў з клюбу пасьля адозвы апошняга.

Аднак-жа „Wyzwolenie" распачала ў Сойме правядзеньне пастановы зьезду аб агульным (няшкодным?) завастрэньні тактыкі клюбу ў адносінах да ўраду.

У камісіі дзеля вайсковых справаў п. Косьцялковскі адмовіўся нават галасаваць за пабор рэкрутаў, матывуючы гэта недаверыем партыі да міністра Сікорскага. Цікава адзначыць адзін з матываў, паданых п. Косьцялковскім. Ён адзначыў, што міністэрства вайсковых спраў **„значна больш набірае рэкрутаў, належачых да нацыянальных меншасьцяў, чым палякоў, што нарушае раўнавагу (?) ў арміі"**.

Ці ня мае п. Косьцялкоўскі на мысьлі тую небясьпеку, на якую паказваў калісь польскаму генаральнаму штабу францускі штаб, а нават „сам" маршалак Францыі і Польшчы, генарал Фош, які казаў, што і дасюлешняя „раўнавага" творыць армію, маючую аж **тры пятыя** часьці няпэўных у сваіх пачуцьцях удзячнасьці да польскай дзяржавы „інародцаў"?..

Па даручэньню зьезду і клюбу п. Панятоўскі па-

дасьць у Сойм ужо апрацаваную прапазіцыю **аб роспуску Сойму** 15-га верасьня с. г. і назначэньні 15-га сьнежня гэтага-ж году новых выбараў паводле старога выбарнага закону.

Апошні тэрмін падачы заяваў аб **беларускай** школе **прадоўжаны** для акругоў **Горадзенскага, Берасьцейскага** і **Луцкага на 20 дзён.**

ГРАМАДЗЯНЕ! Карыстайцеся гэтым і ня спыняйце падачы дэклярацыяў у **Горадзеншчыне і Берасьцейскім вокрузе.**

## „Чыста-польская большасьць“.

(*Ад нашага варшаўскага карэспандэнта*).

У соймавых кругах разыйшлася гэткая вестка.

Пан Тугутт, зусім здаволены ўступкай, зробленай яму прэм'ерам Грабскім ў пастаці нацыянальнае сэкцыі палітычнага камітэту рады мініграў, ня толькі ня зрокся свайго высокага становішча ў урадзе, але зрабіў палітычны ход на соймавым грунце, каб **стварыць** урэшце так даўно жаданую **чыста-польскую большасьць у Сойме**.

Як ведама, цэлы рад вызваленскіх інтэлігентаў—з абшарніцкага стану, пасьля таго, як „іх“ сяляне на партыйным зьезьде зажадалі **зямлі бяз выкупу**, пакінулі партыю „Wyzwolenie“. Вось-жа п. Тугутт здалеў усіх гэтых уцекачоў „ад мужыкоў“ згуртаваць каля сваей асобы і творыць новую фракцыю ў Сойме—„тугуттоўцаў“. У склад гэтае фракцыі ўвойдуць: дэпутаты Хоміньскі, Косьцялковскі, Бартэль, сэнатары Кшыжановскі, Выслоух, Карніцкая, ды некаторыя іншыя. І вось гэтая невялічкая групка прыблізна з 8—10 паслоў мае забясьпечыць стварэньне ў Сойме **цэнтра-правае большасьці, зложанае выключна з палякоў, на якой і будзе апірацца ўрад братоў Грабскіх і п. Тугутта.**

Паскольку гэта зьдзейсьніцца, дык урад гэты можа лічыцца забясьпечаным на даўжэйшы час. Тады дзяржыцеся, меншасьці і лявіца: бо-ж уваход у склад ураду ў апошні мамэнт самага заклятага ворага „інародцаў“, эндэка Станіслава Грабскага, як міністра асьветы, даволі красамоўна сьведчыць аб тым курсе, які ўрад павядзе ў унутранай палітыцы!

Не дарма-ж за апошнія дні „Gaz. Warsz.“ ў сваіх перадавіцах гаворыць аб патрэбе „супакоіць“ унутраную разруху і агульнае нездавольства працоўных масаў Польшчы. Дамаганьне **і польскімі сялянамі** зямлі бяз выкупу кінула ўсё лібэральнае абшарніцтва, выбранае ў Сойм і сэнат галасамі абаламучаных польскіх мужыкоў, у абоймы эндэкаў, каб супольнымі сіламі бараніць кішані абшарнікаў ад пасяганьняў на яе „гэтых хамаў“.

**Букавецкі.**

Варшава, 28. III. 25 г.

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэту карэспандэнцыю, атрыманую ад веры годнае асобы, думаем, што, хаця абшарніцкая інтэлігенцыя з „Вызваленьнем“ пагадзілася — коштам зламаньня пастановы зьезду партыі аб зямлі, аднак, пэўне-ж ня было тут дыму без агня!

## „Другая Лёзанна“.

(*Вызваленьне Нямеччыны*).

„Вэрсальская Эўропа“ на нашых вачох пачынае трашчаць усё мацней.

Нясьпешна, але й няўхільна прыходзіць расплата за ўсё тое, што зрабіла адна палова Эўропы з другой.

Пакрысе, але нязьменна пабітая палова Эўропы варочаецца да сябе, набіраецца сіл і, ня гледзячы на нялюдзкія—накінутыя ей і „падпісаныя“ ёй пад прынукай — Трактаты, занімае ізноў „належнае ёй мейсца пад сонцам“.

Першай вызвалілася з „сэврскай“ няволі ў саюзьнікаў Турцыя. Даволі хаця параўнаваць Трактат Сэврскі („Вэрсальскі“ Трактат для Турцыі) з трактатам Лёзаннскім, каб пабачыць усю вялізарную розьніцу—перад усім у фактычным міжнародным палажэньні Турцыі. Даволі таго, што ў Сэвры Турцыі проста прадыктавалі „дагавор“, ня даўшы ніякага голасу, (як і ўсім іншым пераможаным), а ў Лёзаньне Турцыя зьявілася раўнапраўнай старaной, якая **магла нават „сарваць перагаворы“**, калі не хацела згадзіцца на прапазіцыі праціўніка.

Вось, цяпер на нашых вачох на чаргу гэткай-жа эвалюцыі свайго становішча ў міжнародавых адносінах, **толькі зусім мірным шляхам**, станула Нямеччына. Дык вельмі цікава высьніць, як і чаму адбылася раптам гэтая зьмена, зрабіўся гэткі пералом у адносінах да Нямеччыны вялікіх дзяржаў.

Як гэта сталася, што—замест таго, каб **укараць** ізноў Нямеччыну за яе, быццам, сьцверджаныя кантрольнай камісіяй праступленьні проці Вэрсальскага Трактату (збраеньні і падгатоўка да вайны), — вялікія дзяржавы раптам—увайшлі з Нямеччынай у перагаворы. А сама Нямеччына пачулася ўжо настолькі **роўнай, як старана**, што падае свае прапазіцыі, свае варункі, дамагаючыся зьмены „недатыкальнага“ Вэрсальскага Трактату?!.

Ясна, што мы стаімо напярэдадні новай „Лёзанны“, дзе будзе—можа, і ня так рашуча, бо без папярэдняй вайны, — але ўсё-ж **пераглядацца** Вэрсальскі Трактат.

Аб гэтай новай канфэрэнцыі ўжо зусім выразна кажа Чэмбэрлен.

Запраўды-ж, толькі зусім „сьляпы“, ці „асьлеплены“ чалавек мог верыць у тое, што Нямеччына на век застанецца ў тэй няволі і паняверцы пад жалезным ботом Францыі, пад які загнаў яе Вэрсальскі Трактат. І вось, Францыя, якая са страху і ненавісьці да немцаў, найбольш правакавала ўсе тыя, далікатна кажучы, „абмылкі апэтыту“ на вэрсальскім банкеце пераможцаў, якая так шчодра раздавала нямецкае дабро—бясспрэчна нямецкія землі, сваім васалам,—вось, тая самая Францыя цяпер—пад націскам новай **эвалюцыі сілаў** прымушана **ратаваць толькі сябе** — коштам гэтых-жа васалаў...

У кароткім нарысе гістарычная сувязь апошніх падзей гэткая.

Тыя сотні мільярдаў нямецкага золата, на якія спадзявалася Францыя, аказаліся, як у казцы, **чырвоным, палючым пальцы, вугальлем**... Немцы адмовіліся плаціць церазмерныя сумы, плаціць адным за агульныя грахі мілітарызму.

Спробавалі пераможцы ўзяць гэтыя грошы гвалтам — акупацыяй, але пачалі толькі гэтым **біць самі сябе**.— Дык і зразумелі—**эканамічную еднасьць** сьвету **і—эканамічную неперамажнасьць Нямеччыны.**

Вось, такі быў першы дасьлед, першая мяжа для пераможцаў, лічыўшых неабмежаванай сваю перамогу. Эканамічнае разбраеньне і зьніштажэньне Нямеччыны аказалася хворай, блуднай ідэяй, якая датаго, па слову Лейд-Джорджа, жадала перад усім **мяса ад нямецкай каровы, але не малака**, зразумела, што, каб карова давала малако, дык трэба яе перад усім карміць, хаця-б дзеля таго, што забіць сябе ані яна сама ня дасьць, ані не дадуць на гэта згоды іншыя пераможцы, мацнейшыя і лепш разумеючыя сваю карысць. Але да апошняга часу ў Францыі панавала іншая „сьляпая ідэя“,—ідэя поўнага і вечнага **ваеннага** разбраеньня, ваеннага „зьніштажэньня“ Нямеччыны. Дзеля зрэалізаваньня гэтай блуднай ідэі Францыя, здаецца, зрабіла ўсё, што толькі было магчыма, (а нават немагчыма ў XX веку!..). Нямеччына была разброена вэрсальцамі даканца—на сушы і на моры. Але гэта не паменшыла трагічнага страху Францыі. Францыя заняла левы бераг Рэйну, вугальнае сэрца і жалезнае бруха Нямеччыны. І гэта не памагло. Францыя наслала на Нямеччыну чорныя орды сваіх афрыканскіх войск, падчыніла ваеннаму кантролю кожны крок нямецкай прамысловасьці, пачала рыць, шукаючы аружжа, усю нямецкую зямлю. Аж урэшце толькі цяпер пачала патроху разумець усю абсурднасьць ваеннага, баявога разбраеньня вялікага народу, які ня толькі даказаў сваю **эканамічную** неперамажнасьць, але на вачох усіх сваіх пераможцаў—пабівае іх саміх у **эканамічнай, прамысловай, тэхнічнай канкурэнцыі**. І вось, першы квартал гэтага году якраз прынёс зразуменьне таго, што **ваеннае бясьсільле эканамічна магутнейшага за ўсіх народу** — гэта абсурд, недарэчнасьць і ўнутраная супярэчнасьць, якія маглі спарадзіцца толькі ў тым на сьмерць перапужаным і хворым мозгу, які быццам нейкі блудны і хворы бог, стварыў з паваеннага хаосу — у 6 месяцаў тварэньня — такі-ж, як ён сам, блудны і хворы вэрсальскі сьвет.

Прыклад прамысловай Бэльгіі, ня меўшай зусім арміі, але стварыўшай яе літэральна ў **некальні дзён**, павінен быў-бы навучыць ужо даўно гэтай простай праўды.

Ход падзей, як толькі гэта пачала высьвятляцца для Францыі, зрабіўся вельмі шпаркім.

10-га студня саюзьнікі павінны былі зьняць акупацыю важнага для Нямеччыны Кельнскага абшару. Францыя рашуча адмовілася зрабіць гэта, пазываючыся на нібы-то неразбраеньне Нямеччыны — насупраць Вэрсальскаму Трактату.

Гэтае нарушэньне саюзьнікамі свайго ж „рэвальвэрнага“ Трактату выклікала страшэннае абурэньне ў Нямеччыне і **новы ўзрост у народзе маральнай сілы і ваеннага духу.** Тады пачала працаваць „камісія ваеннага кантролю“, каб даказаць **віну** Нямеччыны перад Вэрсальскім Трактатам—каб пабіць маральна нямецкі народ. Доўга працавала на мясцох у Нямеччыне, а пасьля доўга апрацоўвала свой абвініцельны акт Кантрольная камісія пад наглядам самога Фоша. І вось,—што-ж знайшла камісія?..

У гэтым дакладзе камісіі—як быццам **ключ таго новага досьледу**, які нарэшце ўцяміла Францыя, — ключ дзеля зразуменьня адбыўшагася **новага пералому** ў настроях і эвалюцыі Вэрсальскай Эўропы—на шляху да новага, больш трывалага, больш ураўнаважанага ладу...

Камісія, як калісь біблейскі прарок Валаам, **шукаючы віны, знайшла ў Нямеччыне неперамажную эканамічную прамыслова-тэхнічную моц**, якая можа ў **мамэнт стацца такой жа неперамажнай мілітарнай (ваеннай) сілай.** І гэтая **потэнцыяльна—ваенная сіла** Нямеччыны расьце і будзе расьці нават у забойчых рамках Вэрсальскага Трактату, які цяпер ужо прычыняецца толькі да **маральнага аслабленьня пераможцаў і маральнага падняцьця пераможаных.** Вось, дзеля чаго Францыя так доўга хавае ад сьвету даклад гэтай камісіі. Вось, дзеля чаго—якраз пасьля выезду камісіі ў Парыж—Нямеччына, якой французскі ўрад і англійскія ваенныя спэцыялісты ўсё яшчэ закідаюць „шмат нарушэньняў Трактату ў галіне разбраеньня“, — Нямеччына **падняла галаву так высока**, як дагэтуль яшчэ ня бывала—пасьля яе паражэньня.

І вось, у выніку гэтага ўсяго абвінавачаньня і падсудная Нямеччына пачала з **сваімі судзьдзямі перагаворы, як роўная.**

Вось, дзеля чаго Нямеччына ня толькі ўжо не баіцца „вэрсальскага суду“, але першы раз пасьля вайны пачала ставіць сваім пераможцам **варункі**, на якія яна, Нямеччына, эканамічна і ваенна неперамажная для іх, можа, і захоча—**не надужываць** сваей усё растучай сілай. І судзьдзі запраўды — замест суду— пачалі перагаворы з падсудным...

Найбольш цікава, у гэтай эвалюцыі сілаў у Эўропе тое, што ўсё ўзмацоўваецца ня тая старана, якая мілітарна „ўзброена да зубоў“, але старана разброеная мілітарна, але ўзброеная, відаць, нейкім вышэйшым і магутнейшым аружжам.

Як беларуская газэта прадбачыла яшчэ паўтара году назад,—да новай „нямецкай Лёзанны“ можна будзе дайсьці зусім без папярэдняй вайны — зусім мірным шляхам.

І ў гэтым—бясспрэчны і асаблівы трыумф Нямеччыны і яе новага мацнейшага за „агонь і жалеза“, аружжа...

**В.**

## Аб чым пішуць.

### „Koziol Ofiarny“.

„Dzien. Wil.“ лье кракадзілавы сьлёзы аб долі нашых „Крэсаў“, якія зьяўляюцца запраўдным „казлом адпушчэньня“ ў Польшчы.

Слушна сьцьвярджае яшчэ раз п. Обст усім ужо ведамы і сталы парадак на „крэсах“, што:

> „калі які ўрадовец нарабіў дзе інш такіх скандальных надужыцьцяў, што яго ня можна пакінуць на мейсцы, але з другога боку, ня можна выгнаць са службы, бо ён мае „моцную руку“ ў Варшаве, тады яго назначаюць „на Крэсы“...
>
> „Досьць сказаць, што ў Дзісьненскім, Дунілавіцкім і Сьвянцянскім паветах **60-70 працэнтаў паліцыі складаецца з асобаў дысцыплінарна караных** і за кару сасланых да нас“.
>
> Што да іншых паветаў, дык мы ня маем пад рукамі точных лічбаў, але з численых спраў аб надужыцьцях, а з яшчэ больш численых скаргаў насяленьня — трэба дапусьціць, што і там адносіны ня шмат лепшыя“.

Афіцыяльны рэдактар газэты—п. Ковнацкі—прызнанн спэцыяліст і знаўца паліцэйскіх спраў на „крэсах“, і калі ён сьцьвярджае, што мае гэтыя точныя лічбы 60-70 прац. паліцыянтаў-„крыміналістаў“ на „крэсах“, дык гэта трэба лічыць запраўды сьцьверджаным...

Газэта п. Обста лічыць „крэсы“ „казлом ахвярным“ дзеля „грахоў усей Польшчы; ня кажу толькі таго, на каго ў канцы канцоў перакладаюцца ўсе гэтыя грахі і кары...

### Сэнсацыйная рэвэляцыя пасла Заморскага.

У „Gońcu Krak.“ вядомы эндэцкі пасол Заморскі—ваенны спэцыяліст партыі, піша:

> „Я ведаю з Францыі, што парыжскі генаральны штаб прадбачыць у працягу бягучага 3 лецьця напад Нямеччыны на Польшчу. Не вайну, але толькі напад, гэта значыць—заняцьце Горнага Сьлёнску і Паморыя ў адзін дзень. Пасьля гэтага зараз-жа мае быць абвешчана, што немцы ня хочуць вайны, не вядуць яе, а стаяць на мейсцы, узяўшы сабе тое, без чаго ня могуць жыць, аднасна Нямеччына зьвернецца з заклікам да ўсяго сьвету, каб зрабіў націск на Польшчу, каб яна пагадзілася з дакананым фактам і не падымала-б вайны, якая сталася-б эўрапэйскай“.

Аўтар слушна выводзіць, што, калі аб гэтым „ведае“ французскі штаб, дык „ведае“ і французскі ўрад. А—

> „выдатныя італьянскія палітыкі заяўлялі аўтару ў верасьні, што гэткая небясьпека зусім магчыма, і што некаторыя вялікія дзяржавы (!..) гатовы былі-б пагадзіцца і з такой зьменай Вэрсальскага Трактату, абы толькі захаваць Эўропу ад новай вялікай вайны“.

А ці-ж можна пярэчыць магчымасьці таго, што нямецкі Карфанты ў 1925—1927 г. г. зробіць тое-ж, што зрабіў польскі ў 1921... і Эўропа таксама прыхільна аднясецца—да **пераможцы наагул**, ня кажучы аб нейкіх там „правох“ ці „справядлівасьці“.

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

# ХРОНІКА.

**Скарынскі Юбілей у Радавай Беларусі.** Радавыя газэты пішуць, што па пачыну Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску мае быць і ў Радавай Беларусі наладжана сьвяткаваньне 400-леьця заснаваньня ў нашай Бацькаўшчыне першае беларускае друкарні.

У сувязі з тым, што Скарына быў родам з Полацка, у гэтым найдаўнейшым цэнтры беларускае дзяржаўнасьці адна з вуліц і адна з школаў маюць атрымаць імя Скарыны.

**Водгукі Скарынінскага юбілею.** Сьледам за беларусамі зьбіраюцца сьвяткаваць гэты юбілей такжа літвіны і палякі.

Літвіны праектуюць наладзіць сьвяткаваньне 17 траўня (мая).

Польскае сьвяткаваньне, якім маніцца заняцца віленскі ўнівэрсытэт, яшчэ ня вызначана. Ведама толькі, што ёсьць думка адначасна зрабіць выстаўку ўсіх віленскіх друкаў ад найдаўнейшага часу.

Выданая Бел. Навук. Т-ва „кірыліцай“ кніжачка аб Скарыне кс. Ад. Станкевіча друкуецца і хутка выйдзе такжа і **лацінскімі** літарамі.

**Трохі гумарыстыкі.** Сярод палякоў, якія былі на сьвяткаваньні 400-летняга юбілею беларускага друку ў Вільні, аказаўся такі „паважны“ вучоны—д-р Загорскі, які зрабіў „адкрыцьце“, што Скарына, хоць і родам з Полацку, хоць і сам сябе беларусам называў,—зусім не беларус, а — чэх! Гэта толькі беларусы „прысвоілі“ яго... Д-р Загорскі быццам зьбіраецца чытаць аб гэтым публічную лекцыю....

Ну, і ненавідзяць-жа польскія нацыяналісты беларусаў, калі дайшлі ажно да такіх абсурдаў!

**Камуністычныя адозвы.** „Słowo“ паведамляе, што ў ноч з 27 на 28 сакавіка ў Вільні ў межах 4 і 5 камісарыятаў невядомыя асобы раскінулі камуністычныя часопісі „Большевик“ і „Чырвоны Сьцяг“, а таксама шмат адозваў у літоўскай мове.

Апошнія зьяўляюцца навінкай: дагэтуль бальшавіцкія адозвы ў нас друкаваліся пабеларуску, парасейску, папольску і пажыдоўску, а цяпер да гэтых моваў далучылася і літоўская.

**Культурнае сьвята ў жыдоў.** Віленскае жыдоўскае грамадзянства ўрачыста спраўляе ў сераду, 1 красавіка, вялікае культурнае сьвята: адкрыцьце жыдоўскага ўнівэрсытэту ў Ерузаліме.

Раніцай адбудзецца вялікі паход жыдоўскіх культурна-асьветных арганізацыяў—ад Жыдоўскае Гміны па Віленскай і Нямецкай вул. да сынагогі. Пасьля ў салі Крэйнгеля будзе прачытаны рад рэфэратаў.

Увечары—раўт у салі Таргова-Прамысловага Клюбу (вул. Ад. Міцкевіча 33). Пачатак а 10 гадз.

**Падаткі ў красавіку.** У красавіку сяляне павінны заплаціць I рату грунтовага (зямельнага) падатку. Тэрмін—да 16 красавіка.

# Карэспандэнцыі.

## Ваўкі ў авечай скуры.

(З *Валожыншчыны*)

На шпальтах нашае газэты „Беларуская Доля“ ад 14 сакавіка г. г. ў № 18 надрукавана ў перадавіцы перасьцярога гэткага зьместу: „Беларусы, сьцеражыцеся ваўкоў у авечай скуры“. Гэта ёсьць, каб грамадзяне так-званых Усходніх Крэсаў не пападаліся на правакацыю Врангелеўскіх і Балахоўскіх недабіткаў, служачых у нас у „дэфэнзыўнай арміі“.

Вось, 16 гэтага сакавіка ў м. Вішнева, Валожынскага павету, Навагрудзкага Ваяводзтва, сталіся ахвярамі гэтых „ваўкоў“ тры маладыя хлапцы з Вішнева, а іменна: Язэп Шыдлоўскі, Язэп Авіжэнь і Мікалай Карнаух, а чацьверты з Трабскай гміны Пётр Клінцэвіч. Гэты „воўк у авечай скуры“ п'янстваваў з гэтымі хлапцамі некалькі тыдняў, паіў іх на свой кошт і нагаварываў ісьці з ім у Савецкую Беларусь, ды што ён будзе іхным павадыром праз граніцу, (бо, мусіць, не адну ўжо авечку зьеў пры граніцы). Усё гэта абяцаў зрабіць на свой кошт.

Як прышлося к дзелу, то маладыя даверчывыя ахвяры не пасьпелі адыйсьціся ад мястэчка й пару вёрст, як іх схапіла мяйсцовая паліцыя, закавала ў кайданы й пагнала ў Валожын.

Просім пакорна Беларускі Пасольскі Клюб у Сойме, каб выслаў к нам у Вішнева пасла дзеля азнаямленьня з гэтай вельмі грубой справай. Матар'ял вельмі багаты.

Пры гэтым можна дадаць, што гэты самы „воўк“ гуляў у сераду, 18. III, у рынечны дзень па мястэчку Вішневе і чуць-чуць не ўцягнуў некалькіх асоб у кайданы, але з боку прыкмецілі „ваўка“ й перасьцераглі нявінных людзей.

**Прахожы.**

## Просім бараніць.

(З *Жыдамлянскае гміны.*)

13 гэтага сакавіка ў в. Жыдомля прыехаў Сэнатар Багдановіч у справе адчыненьня беларускае школы ў в. Жыдомля, гдзе гэтай справе не давала ходу гмінная ўлада.

Сэнатара Багдановіча спатыкалі пакрыўджаныя сяляне са сьлязмі на вачох. Бо надта-ж такі трудна нам жывецца.

Ня буду тут пералічываць усіх падаткаў. Скажу толькі, што, апрача іх, у нас ёсьць столькі штрафаў, што і не пералічыць.

Мы, жыдамляне, дзякуем Беларускаму Пасольскаму Клюбу ў асобе Сэнатара Багдановіча за яго аб нас клапоты.

Прыезд дарагога сэнатара неяк раптоўна ахапіў усе беларускія вёскі нашае гміны жаданьнем да адчыненьня беларускіх школ. І цяпер з усіх канцоў нашае гміны прыходзяць бацькі беларусы да войта гміны з дэкларацыямі, каб заверыць на іх свае падпісы. Але той вельмі добра выпаўняе сваё „słowo honoru“, данае ім п. сэнатару. Ён яму сказаў „Daję panu słowo honoru, że będę stwierdzać“. Так сама ён „grzecznie“ гаворыць і бацьком, калі тыя прыходзяць да яго цэлымі грамадамі „Panowie, dzisiej ja nie mam czasu! Proszę przyjść jutro.“ Прыходзяць „jutro“, а войта няма ў гміне, дый дома яго са сьвечкаю ня знойдзеш.

Вядома, бацькі, жывучыя за 10 — 15 вёрст ад гміны, могуць прыйсьці раз-два, а ня кожны дзень, дый пры такім „słowie honoru“ і „grzeczności“ нашага войта ня толькі прападуць праца і труды гэтых далёкіх бацькоў, але на'т нічога ня выйдзе і ў нашай Жыдомлі. Дарагія паслы беларусы і Школьная Рада! Просім бараніць нас яшчэ раз, бо тэрмін канчаецца!

**Салавей.**

## Адбіраюць папяровыя „ляворвары“.

(*Высокая Ліпа, гм. Сноўская, пав. Нясьвіжскі.*)

5. III. ў нашу вёску прыехаў камандант пал. пастарунку з Снові і вывядоўца з Нясьвіжа, Селятыцкі. Узяўшы солтыса, прыйшлі да жыхара вёскі Вінцука Ермака, нібыто шукаць аружжа; але, палазіўшы па кутках, аружжа не знайшлі. Надыбаліся яны затое на дэкларацыі і інструкцыі Бел, Шк. Рады, каторых асталося ад раздачы 15 шт. Дык тагды годзе лазіць па кутках, учапіліся за гэтыя дэкларацыі і інструкцыю. Напісаўшы пратакол, забралі 15 дэкларацыяў і інструкцыю пашлі да солтыса і там рабілі вобыск. Шукалі гарэлкі, бо ім сказалі, нібы солтыс таргуе гарэлкаю. Не знайшоўшы нічога, паехалі.

Справа ў тым, што сын Ермака ўмее трохі пісаць папольску і перад тым у Нядзелю хадзіў па сяле, бо людзі прасілі, ды пісаў дэкларацыі, а солтыс заказваў у абоз. Калі ў аўторак пайшлі да гміны, каб войт падпісаў, дык войт адмовіўся падпісаць. Тым часам ён пастараўся выведаць, хто гэту штуку ажывіў. „Бо наша вёска прышла першая“, ды напусьціў каманданта пастрашыць гэтых „злыдняў“.

Але самі, мусіць, горш спалохаліся, бо 13 г. м. у 12 гадзіне ўначы прышлі паліцыянты ў вёску да солтыса. Прызвалі дзесятніка, каб той паклікаў Ермака. Калі дзясяцкі прышоў да Ермака і сказаў яму, што трэба пойсьці да солтыса, дзе чакаюць яго W. P. паліцыянты, — дык той адмовіўся, што цягацца па вёсцы ўначы ён ня хоча, калі ім трэба да яго, няхай прыдуць у хату. Вярнуўся дзясяцкі і сказаў ім, што той ня пойдзе. Паліцыянты прымусілі пайсьці яшчэ раз, але Ермак і па другі раз не пайшоў. Тагды W.P. „изволили“ самі прыйсьці да Ермака. Прышоўшы, сталі стукацца. Гаспадар запытаўся: хто,—адказалі: паліцыянты. Запытаўшыся, ці ёсьць солаыс, Ермак пусьціў у хату. Увайшоўшы ў хату, адзін паліцыянт кажа: „cóż pan nie przyszedł do sołtysa? My dziś więcej, jak trzydzieście pięć kilometrów zrobiliśmy, a pan nie chce i pół przejść“. А гаспадар кажа, што „гэта для паноў служба, а я па начам не хачу цягацца, бо мне ніхто не заплаціць“. Тагды яны папрасілі сьвятла на стол і пад паквітаваньне аддалі назад 15 дэкларацыяў і інструкцыю. Дый так далікатна сказалі „dowidzenia“ — мусіць, яшчэ раз хочуць бачыцца ў гэтакім кірунку...

**Янка Клін.**

## Страляюць людзей.

(З *Косаўшчыны*)

Часта і густа можна бачыць на страніцах больш-менш мужыцкіх газэтаў аб надужыцьцях: паліцыі, войтаў і пісароў гмін над безбаронным „хлопам“—беларусам. На помач паліцыі ўрад прысылаець нам сваіх вучыцялёў з-пад Варшавы, з Галіцыі і г. д.; але ім не хватае вучыцельскае пэнсіі; і яны пачалі шукаць пабочных заробкаў. Гэтак вучыцель у вёсцы Міжэвічах, Міжэўскае гміны, Слонімскага павету, Апанасік, служыць паштовым агэнтам пры той-жа гміне, а вучыцель у вёсцы Блізня, Ражанскай гміны, Косаўскага павету, Баначковскі, як кажуць жыхары тае-ж вёскі, быў агентам тайнай паліцыі. Гэны апошні не аднаму чалавеку капаў яму, але-ж нарэшце і сам у яе ўваліўся.

4-га сакавіка с. г. гэны панок, узяўшы ў падводы з вёскі Блізная старога чалавека, Кастуся Бінцэвіча, паехаў у Слонім. Вечарам таго самага дня Баначкоўскі з падводчыкам варочаўся дамоў і, не даехаўшы да вёскі Блізная вярстоў 7, застрэліў з рэварвэра Кастуся Мінцэвіча. Можа, каб зьмягчыць кару, палічаць пана вучыцеля за вар'ята,—але-ж ён сябе лічыў вельмі разумным.

Дык вось браткі, як марнуяцца наш брат-сярмяжнік, ня маючы над сабою добрае апекі.

**Беларус.**

## Кароценькі арышт.

(З *Маладэчынскае гміны.*)

Дня 13. III с. г. жыхар вёскі Вялікае Сяло, гміны Маладэчынскай, Матэуш Чарнецкі, атрымаў ад солтыса Якуба Цара павестку прыйсьці ў гміну. У гміне сэкрэтар сказаў, што з ім хоча бачыцца начальства з павету. Сустрэўшыся з „начальнікам“, Чарнецкі спытаўся: Чым можа служыць. Але гэта не спадабалася п. начальніку, і ён пачаў крычаць на селяніна, што той агітуе сярод аднасяльчан, каб не плацілі падаткаў і ня слухалі ўлады, ды што солтыс Цар аб гэтым гаварыў у прысутнасьці радных. Абазваўшы селяніна „анты-польскім элемэнтам“ — „начальнік“ пазваніў у пастарунак паліцыі, скуль прышоў паліцэйскі і „папрасіў“ Чарнецкага да „пакі“. Аднак у „паку“ не пасадзілі, а пратрымалі ў канцэлярыі гадзіны дзьве, ды звольнілі.

Варта дадаць, што ўначы, а гадз. 23, з 14 на 15 III паліцэйскі з двумя вартаўнікамі ўкаціўся ў хату ўдавы Татун (матка Чарнецкага) сьпісываць пратакол, што тая не плаціла штрафу за тытун, які сеяла ў 1924 годзе. Як толькі ўвайшлі ў хату, паліцэйскі варту звольніў, а сам пачаў дапрос. Папытаўшы матку, прыступіў да сына з запытаньнямі: ці праўда, што пан чытаў у газэце, што ня трэба плаціць штрафу за тытун. Чарнецкі адказаў, што аб гэтым чытаў у „Сялянскай Праўдзе“. На гэтым справа была закончана.

**Аднавясковец Янук.**

**Ад Рэдакцыі.** У справе штрафаў за тытун, калі быў пасеяны **на сваю патрэбу**, міністар скарбу ў распараджэньні з 2 верасьня 1924 г. пад № 10517/W.B. загадаў дырэктарам скарбовых ізбаў, каб вызначаныя кары не пераступалі 10 зл. Гдзе раней былі вызначаны вялікшыя кары, там яны павінны быць зьменшаны да 10 зл. Дзеля гэтага ўсе, каго аштрафавалі больш як на 10 зл., ці толькі на 10 зл., павінны асабіста зьвярнуцца да скарбовае ўлады, якая назначыла штраф, і прасіць зьменшыць, калі тытун сеялі не на прадажу. У асаблівых выпадках, калі пакараны зусім бедны, скарбовыя ўлады могуць зьменшыць штраф нават да 1 злотага.

## Дадатак да інструкцыі „як дамагацца беларускай урадовай школы“.

1. Грамадзяне! З прычыны таго, што тэрмін для складаньня дэкларацыяў прадоўжаны, і далей складайце школьнаму інспэктару дэкларацыі аб навучаньні сваіх дзетак у роднай беларускай мове.

2. Калі войт да апошняга часу не сьцьвярджае на дэкларацыях подпісаў, трэба сабраць дэкларацыі, напісаць скаргу ў Беларускі Пасольскі Клюб ад імя паўнамоцніка ці ўсіх бацькоў і заказным пісьмом паслаць у Варшаву ў Сойм. (Warszawa, Sejm, Klub Białoruski)

3. Калі школьны інспэктар ня прымае дэкларацыяў, таксама трэба напісаць скаргу ў Бел. Пас. Клюб і паслаць туды дэкларацыі.

4. Калі школьны інспэктар вымагае, каб кожны бацька прадставіў мэтрыку свайго дзіцяці, ці зьявіўся да яго асабіста, ці не выдае паўнамоцніку паквітаваньня, таксама трэба напісаць скаргу ў Беларускі Пасольскі Клюб.

5) Для таго, каб было відаць, ці ўсё добра і правільна зроблена пры заверцы і складаньні дэкларацыяў, паўнамоцнікі павінны прыслаць у Школьну Раду копію сьпіска бацькоў, копію паперы паўнамоцніка да інспэктара і паведаміць: 1) Ці заверины дэкларацыі войтам; 2) Ці пададзены дэкларацыі Школьнаму Інспэктару пад расьпіску асабіста, ці перасланы па пошце.

6) Дэкларацыі і інструкцыі можна выпісаць: 1) з Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады (Wilno, Wileńska 12—6); 2) з Навагрздскага Т-ва Беларускай Школы (Nowogródek ul. Korelicka 23); 3) з Беларускага Пасольсага Клюбу; 4) з Радашкоўскага Таварыства Беларускай Школы (m. Radoszkowicze).

7) Пры зносінах абавязкава падаць дакладны адрас і імя і прозьвішча паўнамоцніка.

**Цэнтр. Бел. Шк. Рада.**
(Вільня, Віленская 12—6).

# Беларусы у Латвіі.

## Працэс беларусаў.

2 красавіка ў Дзьвінску пачнецца суд над беларускімі дзеячамі: Краскоўскім, Якубецкім, Езавітавым, Пігулеўскім і інш., якіх вінаваццяць у жаданьні адарваць Латгалію ад Латвіі, бо... яны вучылі ў школах паводле адзінае істнуючае „Геаграфіі Беларусі“ А. Смоліча і карысталіся картамі, дзе беларуская часьць Латвіі паказана, як часьць Беларусі.

Цікава, якую пазіцыю займець суд у гэтай яўна сфабрыкаванай пракуратурай з палітычнымі мэтамі справе. Пастанова суда пакажа, ці ёсьць яшчэ ў Латвіі запраўдныя судзьдзі:



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.